# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 32 (193), 30 ЖНІЎНЯ — 5 ВЕРАСНЯ 1995 ГОДА. КОШТ 1000 РУБЛЁЎ



## ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І ДРУКУ



СІТУАЦЫЯ

# "... І НА "КУЛЬТУРНАЙ" ВУЛАЧЦЫ Я Ў ЦЕНЮ ПАСТАЮ"

***Ад нашых сакрэтных спецслужбаў на стол галоўнага рэдактара штотыднёвіка "Культура" быў дастаўлены пакет... У ім — план. Увага: без грыфа "Сакрэтна". План горада, маштабы і хуткасць будаўніцтва якога яшчэ не ведала сусветная гісто рыя. Горад, які шырока расчыніць свае брамы для мінчукоў і гасцей сталіцы ўсяго на адзін дзень — 3 верасня бягучага года. Дабрацца да яго не будзе складаць вялікіх праблем: можна выкарыстаць любы наземны транспарт (у тым ліку і таксоўкі), а таксама водны — па рацэ Свіслач на катамаранах, лодках і прагулачным кацеры. Канцавы прыпынак — парк імя Горкага, а больш дакладна, — Горад Прэсы, дзе ў рамках "Дзён беларускага пісьменства і друку" будзе праходзіць фэст прэсы.***

***Гаспадары горада — журналісты і супрацоўнікі беларускіх выданняў — запрашаюць да сябе ў госці ўсіх сваіх чытачоў, а значыць, і сваіх сяброў. Разам прайсціся па цяністай алеі Маладзёжнай прэсы, паклацкаць пад спевы і музыку абцасамі на плошчы "Культуры", падыхаць свежым паветрам са Свіслачы з набярэжнай "Звязды", закінуць вуды ў возера "Несси", а таксама зnative залюбавацца сваім адлюстраваннем у вадзе, стоячы на "Вожыкавым" (не блытаць з Анічкавым) мастку.***

***Колькі наведае гасцей новы горад, цяжка нават сабе ўявіць. Але прыкінуць магчыма: скласці ў адно цэлае тыражы ўсіх выданняў-удзельнікаў і ...і атрымліваецца даволі кругленькая лічба.***

***А ўвогуле, з гэтымі і іншымі пытаннямі карэспандэнт "Культуры" звярнуўся да старшыні аргкамітэта свята "Дзён беларускага пісьменства і друку", намесніка міністра культуры і друку Станіслава НІЧЫПАРОВІЧА.***

**— Станіслаў Антонавіч, шчыра кажучы, з абвяшчэннем незалежнасці нашай краіны журналісты засталіся без свайго прафесійнага свята. Для супрацоўнікаў беларускіх СМІ ўжо афіцыйна не існавала 5 мая — дня выхаду ў свет першага нумара газеты "Правда". Неяк не прагучала для нас і першае святкаванне "Дзён..." Цікава, як прыйшла задума стварэння фэсту і "будаўніцтва" Горада Прэсы?**

— Сапраўды, нашы журналісты былі незаслужана абыдзены ўвагай. Мы спадзяваліся, што "Дзень беларускага пісьменства і друку" стане сапраўды агульнанародным і ў той жа час — прафесійным. Стане святам паліграфістаў, кнігавыдаўцоў і журналістаў. А таму аргкамітэту давялося ўлічыць усе прапановы і меркаванні з нагоды леташняга свята і ў рамках сёлетніх "Дзён..." правесці фэст беларускай прэсы.

**— Цікава, а якія былі патрабаванні пры адборы ўдзельнікаў-гаспадароў Горада Прэсы?**

— Ніякія! Мы запрашалі ўсіх без выключэння. Хаця, не — патрабавалася адзінае — жаданне. На жаль, не ўсе праявілі вялікую актыўнасць і не ўсе захацелі скарыстаць гэтую магчымасць. Але ўсё роўна ў свяце возьмуць удзел прадстаўнікі трыццаці сямі беларускіх выданняў незалежна ад іх накіраванасці і палітычных поглядаў.

І прадбачу, напэўна, вашае наступнае пытанне: якая мэта свята? Па-першае, даць магчымасць для кансалідацыі журналісцкіх сілаў (дзе гэта рабіць, як не на свяце?!) і яшчэ шчыльней наладзіць сяброўства паміж чытачамі і супрацоўнікамі газет і часопісаў.

**— Дзякуй, Станіслаў Антонавіч, — Вы правідца, але на пачатку аднаго з паседжанняў аргкамітэта ў Вашым голасе адчувалася нейкая нотка няўпэўненасці з нагоды правядзення свята...**

— Не, справа ў тым, што мне не так часта выпадае быць старшынёй арганізацыйнага камітэта. Гэта вельмі адказная пасада. І таму быць спакойным і ўпэўненым да канца немагчыма. Але нават дрэннае надвор'е не зможа перашкодзіць правядзенню "Дзён..." І хочацца, каб усе адчувалі сябе гаспадарамі. А арганізатараў узгадалі б толькі тады, калі свята сапраўды атрымаецца на славу. Дарэчы, рэжысёрам фэсту прэсы з'яўляецца Ніна Восіпава.

**— Вядома, святы робяць людзі і... грошы...**

— Калі раней у сродках масавай інфармацыі мільгацелі паведамленні, што тое ці іншае дзейства праводзіць Міністэрства культуры і друку сумесна з нейкімі фірмамі, арганізацыямі і прадпрыемствамі, дык сёння мы апынуліся ў іншай сітуацыі. Гэтыя "Дні беларускага пісьменства і друку" праводзяцца выключна за кошт дзяржавы, і з дзяржбюджэту было выдаткавана больш за 500 мільёнаў рублёў. Вельмі хочацца падзякаваць ураду, што, нягледзячы на цяжкое эканамічнае становішча ў рэспубліцы, ён не пакідае нас без увагі (калі казаць выключна пра перыёдыку, дык толькі праз нашае міністэрства часткова фінансуецца сорак чатыры выданні). На жаль, у грамадстве стаўленне да падобных святаў даволі неадназначнае. Ну, урэшце, калі ж мы ўсвядомім, што ў жыцці не ўсё вымяраецца кавалкам хлеба?

**Гутарыў Міхась РАВУЦКІ**

**P.S.** Вышэйшай матэматыкай я вырашыў заняцца ў адзіноце, у цішы рэдакцыйнага кабінета. Калі ўлічыць, што кожны нумар "Культуры" прачытваюць у сярэднім два-тры чалавекі пры пяцітысячным накладзе, то да нас у госці ў Горад Прэсы прыйдзе шмат сяброў. А значыць, будзе і на нашай вуліцы свята, дакладней на Плошчы Культуры. А месца на ёй хопіць усім.

**М.Р.**

# "... ПРЫСТОЙНА ЎВАЙСЦІ..."

***Аляксандр ШАБАЛІН, галоўны рэдактар часопіса "Беларусь":***

— Пра сённяшні дзень і стан нашага часопіса, думаецца, шмат гаварыць нявартa. Лёс яго — гэта практычна лёс любога перыядычнага выдання: цяжкае фінансавае становішча, смехатворна-мізэрныя аклады, якія спараджаюць і кадравыя праблемы. Бываюць месяцы, калі часопіс робяць літаральна трычатыры чалавекі. Уражанне такое, што табе далі кавалак таннай тканіны і патрабуюць пашыць з яго парадны касцюм. Гэта, напэўна, адбіваецца і на якасці часопіса, і на тым, што ён пакіне ў гісторыі нацыянальна-культурнай спадчыны.

Тым не менш, нягледзячы на ўсе цяжкасці, ёсць, як кажуць, і святло ў канцы тунеля, бачыцца нейкая перспектыва. Нават у сваёй збяднелай казне дзяржава ўсё ж знаходзіць грошы, каб не даць сысці ў нябыт літаратурна-мастацкім выданням. Адчуваем пастаянную падтрымку з боку Міністэрства культуры і друку рэспублікі. І вельмі адметна, што знаходзяцца людзі, якія і ў такіх умовах працуюць самаахвярна і плённа. Значыць, яшчэ далёка не ўсё вынішчана ў душы чалавека, асабліва чалавека творчага.

А па-другое, не можа не радаваць тое, што часопіс неўзабаве ў самым шырокім сэнсе прыйдзе да замежнага чытача. Амаль шэсць гадоў мне асабіста даводзілася ставіць пытанне аб выпуску часопіса "Беларусь" на англійскай мове. А гэта пытанне даўно наспела. Справа ў тым, што пра нашу рэспубліку з яе найбагацейшай славянскай гісторыяй і культурай, навукова-эканамічным патэнцыялам, чарнобыльскай трагедыяй да крыўднага мала ведаюць у многіх краінах свету. Мы па сутнасці знаходзімся ў пэўным інфармацыйным вакууме, а калі нас не ведаюць ці ведаюць слаба, то як з намі будуць гандляваць, як будуць інвеставаць свае сродкі ў нашу эканоміку, як будуць нас паважаць.

А шырока прадставіць Беларусь у цывілізаваным свеце і зможа спецыяльны англамоўны часопіс "Беларусь". Гаворка ідзе не пра пераклад выдання, што распаўсюджваецца ў нас на Радзіме, а пра самастойны арыгінальны часопіс, разлічаны на англамоўнага чытача. Некалькі разоў пытанне аб выданні яго падыходзіла, як кажуць, да піку, здавалася станоўча вырашаным. Як раптам па незразумелых прычынах усё спынялася і даводзілася зноў пачынаць з нуля. Прыходзілі новыя людзі да кіраўніцтва краінай, праяўляліся новыя падыходы да справы.

У рэшце рэшт было вырашана звярнуцца непасрэдна да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сп. Лукашэнкі. Дзейнічаў я не адзін, а разам з міністрам замежных спраў У.Сянько, міністрам культуры і друку А.Бутэвічам, старшынёй Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі А.Ваніцкім. Прэзідэнт уласнаручна і адназначна падтрымаў прапанаваную ідэю, і часопіс "Беларусь" на англійскай мове павінен пачаць выходзіць са студзеня 1996 года.

Мы цяпер заклапочаны... Справа надзвычай адказная перад культурай, грамадствам. Гэта шырокі інфармацыйны выхад Рэспублікі Беларусь на сусветную арэну. Таму мы добра разумеем, які творчы, паліграфічны ўзровень павінен мець наш новы часопіс, каб прыстойна ўвайсці ў сусветную інфармацыйную прастору, насычаную выданнямі, выкананымі на найвышэйшым узроўні. Каб зрабіць падобнае выданне, у нас ёсць і людзі, і сілы, і жаданне.

**Запісаў Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# "СУДАКРАНУЦЦА З НАБЫТКАМІ СУСВЕТНАЙ КУЛЬТУРЫ"

***З карэспандэнтам газеты "Культура" з нагоды свята "Дзень беларускага пісьменства і друку" гутарыць дырэктар выдавецтва "Народная асвета" Ігар ЛАПЦЁНАК.***

Для супрацоўнікаў нашага выдавецтва гэта свята і прафесійнае. Добра, што яно супадае з пачаткам навучальнага года, таму што для нас гэты час — пераходны рубеж, калі можна рэальна бачыць вынікі сваёй работы. З запланаваных 111 падручнікаў намі выдадзена 110, яшчэ дапрацоўваецца падручнік па гісторыі Беларусі для 6 класа. Нягледзячы на шматлікія праблемы, нацыянальная школа атрымала неабходны метадычны матэрыял. Выдадзены кнігі, якія былі заснаваны на нацыянальных праграмах, што ствараліся міністэрствам адукацыі. Тут і новыя інтэграваныя курсы "Чалавек і свет", (які складаецца з трох частак — падкурсаў: "Чалавек і грамадства", "Чалавек і прырода", "Чалавек і яго здароўе"), "Уводзіны ў школьнае жыццё", вялікая колькасць новых падручнікаў па сусветнай геаграфіі, сусветнай гісторыі. Радуе, што зроблены першыя крокі ў стварэнні нацыянальнай адукацыі. Можна казаць, што нашчадкі Францыска Скарыны атрымаюць першыя кніжкі, якімі б ганарыўся сам першадрукар, а калі ўлічыць сучасную паліграфічную базу — нават і лепшыя.

Вельмі прыемна, што на нацыянальнай метадычнай глебе створаны падручнікі па алгебры, геаметрыі. Яны складзены нацыянальнымі кадрамі, што былі знойдзены ў сваёй рэспубліцы, адпавядаюць нашым праграмам і, разам з тым, падыходзяць і пад сусветныя стандарты.

Спецыфіка нашай работы заключаецца і ў тым, што падручнік — самая кансерватыўная кніжка ў свеце. Тут недаравальныя хібы і спрэчныя высновы, хаця стараемся выдаваць і альтэрнатыўныя падручнікі, дапаможнікі.

Хацелася б, каб было больш цікавых кніжак, што, канешне, залежыць ад аўтараў. Нам вельмі нестае навукова-папулярнай літаратуры для дзяцей, каб школьнікі, дашкалята маглі судакрануцца з набыткамі сусветнай культуры. Зараз неабходна папулярызаваць новыя падыходы да гісторыі, літаратурных герояў. Заўсёды трэба памятаць, што сённяшнія школьнікі будуць працягваць нашу справу. Таму прыемна адзначыць, што наша прадукцыя атрымлівае высокія ацэнкі, мае прэміі рэспубліканскіх конкурсаў.

Галоўная праблема, якая перашкаджае нам рытмічна працаваць, — гэта тое, што фактычна ўся папера выпрацоўваецца за мяжой і праходзіць праз камерцыйныя структуры. Адсюль вялікія і непрадказальныя кошты. Ёсць цяжкасці з транспартам, хоць мы і выпускаем падручнікі ў апошнія гады своечасова, часта яны трапляюць ў школу са спазненнем, асабліва на ўскраінах. Малыя ганарары не дазваляюць запрашаць лепшых спецыялістаў з далёкага замежжа і нават з Расіі.

Нягледзячы на шматлікія перашкоды, прыемна працаваць у зладжаным калектыве, дзе кожны ведае і выконвае свае задачы. У нас ёсць чым сустракаць свой юбілей: у наступным годзе выдавецтву спаўняецца 45 гадоў. Скарыстаўшы выпадак, хачу выказаць вялікую падзяку калектыву выдавецтва за цяжкую і неабходную работу, павіншаваць усіх з надыходзячым святам.

**Запісаў Алесь ТУРОВІЧ**

БАЗАРЫ-"БАЗАРЧЫКІ"

# "ПЕРЕВОД С ПРИВЕТОМ"

* * *

Скрадзены ў рэдактара аддзела штотыднёвіка "Культура" Юрася Барысевіча пасля выканання журналісцкага задання дыктафон SONY вытворчасці Японіі пад серыйным нумарам 108653 лічыць несапраўдным.

Прэтэнзіі ад рабаўнікоў прымаюцца з моманту гэтай публікацыі.

* * *

Акурат падчас другога тура выбараў у Вярхоўны Савет быў у творчай камандзіроўцы па Гомельскай вобласці. І ў гэты адказны момант для ўсёй краіны ў Гомелі адна з расейскіх тэатральных труп ладзіла спектакль "Тры парасяці". А таму-здаўна ўвесь горад быў абклеены рэкламнымі праспектамі з запрашэннем на імпрэзу. З цягам часу афішы месцамі паспелі паабдзерціся, — затое яскрава прачытвалася сама назва, пад якой дзе-нідзе з'явіліся перадвыбарчыя ўлёткі акурат трох кандыдатаў у ВС рэспублікі...

* * *

Тыдзень-другі як вярнуўся з Санкт-Пецярбурга. Апошні дзень гасцявання ў паўночнай Пальміры ледзь не сапсаваў сваім наведваннем кунсткамеры Пятра І, каб не адзін момант.

Дэталёва вывучаючы экспанаты прэпараваных частак чалавечага арганізма і калекцыю выродкаў, што дасталіся нам у спадчыну ад доктара Руша, я хутка адчуў моцнае пульсаванне ў скронях, як неўзабаве да мяне данёсся танклявы галасок дапытлівага хлопчыка, што прыйшоў сюды на экскурсію разам з бацькамі:

— Мама, а они что — все настоящие?

— Да, сынок, в этом-то и заключается вся их прелесть!

* * *

У сярэдзіне жніўня неяк давялося па айчынным тэлевізійным канале паглядзець перадачу "Музычны салон Элеаноры Язерскай". Эфектная спадарыня Язерская ў сваёй студыі на расейскай мове вітала не менш эфектную мастачку, жонку індыйскага пасла ў нашай краіне Кусум Шукла і — цытую дакладна — "молодого человека с переводом..."

Мо, вядучая памылілася — "перевод" я чуў, але не бачыў, тым больш, калі ўлічваць меркаванні прадстаўнікоў больш сталага пакалення, сёння маладыя людзі бываюць альбо з "приветом", альбо з пэйджэрам.

* * *

Радыё ў кватэры не выключаю — гамоніць бясконца. І як вынікае — не дарэмна, столькі цікавага даведваешся. Адна беларуская рэклама чаго толькі вартая. Асабліва мне падабаецца рэкламны ролік пра металаканструкцыі, нягледзячы на даволі песімістычную ягоную канцоўку, калі замагільны голас дыктара прыцягальна сцвярджае: "Железобетон" ждёт вас!"

А далей ужо думкі, што называецца, з разраду чорнага гумару, бо дакладна ведаю: самыя танныя надмагільныя пліты — з жалезабетону. Значыць, усім нам рана ці позна туды дарога (даруйце за перайначванне), я маю на ўвазе — да дзвярэй "Железобетона".

Вось так і сее добрае, вечнае і... карыснае нашае беларускае радыё.

* * *

Ходзяць пагалоскі, што журналістам заўсёды дастаецца... Маецца на ўвазе на якіхсьці там прэзентацыях, творчых вечарынах ці проста "сустрэчах з цікавымі людзьмі". Ну кілішак, ну другі, а там ты ўжо і перабраў. Згодна з журналісцкай этыкай і прафесійнай тайнай, ні абвяргаць, ні сцвярджаць такія выказванні не збіраюся. Прывяду толькі адзін выпадак. На нейкай творчай тусоўцы тое было. Да спірытусовых напояў з журналісцкай братвы не дакранаўся, мабыць, толькі адзін з "буйвалаў пяра". А яму ўсё настойліва прапаноўвалі дый прапаноўвалі, пакуль ён не пачаў з жартам адказваць, што, маўляў, закадзіраваны і, як толькі вып'е, уздымаецца на конях да аблокаў у акружэнні белых мух. Таму і не можна яму зараз.

Незамужнія жанчыны адразу прасякліся да яго павагай і пяшчотай, а замужнія ставілі да прыкладу сваім моцным палавам.

Зразумей тых жанчын ці... тых журналістаў!

**М.Р.**

СТОП-КААДР


Турецкие страсти




# "ПІЛЮЛІ" І "ЦУКЕРКІ" БАМОНДА

## ФРАГМЕНТ ЛЕТАПІСУ МАСКОЎСКАГА КІНАФЕСТЫВАЛЮ З СУЧАСНЫМ КАМЕНТАРАМ

АФІЦЫЙНА ЛІЧЫЦЦА, што I Маскоўскі кінафестываль адбыўся ў 1959 годзе. Але на самой справе першая спроба правесці ў СССР міжнародны кінаагляд была ажыццёўлена ў 1935-м. Падбор кінастужак для конкурснай і інфармацыйнай праграмы сведчыць сёння і пра лібералізм улады, і пра адмысловы эстэтычны густ ягоных арганізатараў. У аргкамітэце і журы працавалі тады Сяргей Эйзенштэйн, Усевалад Пудоўкін, Аляксандр Даўжэнка. Першы прыз атрымала праграма кінастужак, створаных на кінастудыі "Ленфільм": "Чапаеў", "Юнацтва Максіма" і "Сяляне" — работы, што сталі потым класікай сусветнага кінематографа. На фестывалі прэміі атрымалі таксама сатырычная карціна Рэнэ Клера "Апошні мільярдэр" і праграма мультфільмаў Уолта Дзіснэя. У праграме фестывалю дэманстраваліся фільмы, якія сталі знакамітымі ва ўсім свеце: "Каралева Хрысціна" В.Манумяна з Грэтай Гарба ў галоўнай ролі і "Петэр" Г.Костэрса з Франчэскай Гааль. На тым жа кінафестывалі можна было ўбачыць і самую, бадай, скандальную стужку таго часу — "Экстаз" рэжысёра Густава Махатага.

Гэты фестываль можна было б лічыць нейкай чарговай прапагандысцкай акцыяй савецкіх уладаў. Фестываль, што быў запланаваны на 1937 год, так і не адбыўся...

Толькі амаль праз 25 гадоў на I Міжнародным фестывалі моладзі і студэнтаў у Маскве быў зроблены маленькі кінаагляд, на якім савецкі глядач упершыню ўбачыў "рэвізіяніўцкую" стужку Анджэя Вайды "Канал". Паступова Маскваператварылася ў адну з сапраўдных кінематаграфічных сталіц.

У 1985 годзе на XIV ММКФ Гран-пры атрымаў фільм Элема Клімава "Ідзі і глядзі". Стужка была створана на кінастудыі "Беларусьфільм" па сцэнарыі Алеся Адамовіча. На XVIII ММКФ Гран-пры атрымала кінастужка французскага рэжысёра Іаланды Забэрман "Я — Іван, ты — Абрам". З цітрамі Францыя-Беларусь.

На пачатку перабудовы айчынныя кінематаграфічныя эксперты прааналізавалі тэндэнцыі развіцця фестывальнага кінаруху. Была зроблена амаль аднагалосная выснова, што яго ўзмацненне — прыкмета адыходзячай эпохі таталітарызму, і ў той жа час — гэта сведчанне палітычнай і эканамічнай нестабільнасці.

Зараз на ўсёй тэрыторыі СНД адбываецца сапраўдны фестывальны сіндром. Асабліва гэта характэрна для Расіі. За апошні час тут нарадзілася каля дзесяці новых кінафестываляў, да прыкладу, фестывалі ў Ялце і Суздалі.

### ФРАГМЕНТ ПЕРШЫ, ФРАГМЕНТ АПОШНІ...

На пытанне: чаго вы чакалі ад XIX ММКФ?" амаль усе рэспандэнты адказвалі: "фільмаў". Па-ранейшаму, галоўнае — гэта кіно, а ў кіно найважнейшым застаецца Мастацтва.

Узровень фестывалю вызначае ягоная праграма, прычым як асноўная, так і інфармацыйная. За падбор фільмаў на конкурс адказваў спадар М.Чарненка, адзін з вопытных кінакрытыкаў і даследчыкаў сучаснага замежнага кіно. Асаблівае абурэнне, аднак, выклікала рашэнне журы фестывалю пакінуць удзельнікаў кінаспаборніцтва без галоўнага прыза. Да такой высновы пасля доўгіх спрэчак прыйшлі ўсе члены журы. Як пракаментаваў сітуацыю старшыня журы Рычард Гір, "ніводны з фільмаў, прадстаўленых на конкурс, не адпавядае высокім патрабаванням гэтага фестывалю". У конкурснай праграме, сапраўды, не было яўнага лідэра. Конкурсная праграма выявіла дзве тэндэнцыі: агульны даволі роўны мастацкі ўзровень і імкненне вярнуцца да традыцыйнай кінематаграфічнай эстэтыкі. Падставаў для размоў пра развіццё сучаснай, прынцыпова новай кінамовы, на жаль, няма.Назіраецца, нейкая стомленасць. Але гэтыя спрэчкі ідуць ужо не першы год... I ММКФ таксама з'яўляецца адлюстраваннем пэўных тэндэнцый у сусветным кіно.

Тым не меней сярод стужак-канкурсантаў былі свае лідэры і прэтэндэнты на Гран-пры. Адным з іх быў фільм К.Мангера "Англічанін, які ўзняўся на ўзгорак, а спусціўся з гары". Гэта экранная гісторыя самаахвярнага подзвігу жыхароў маленькай уэльскай вёскі, своеасаблівы аповяд пра патрыятызм у ягоных абсурдных праявах. Кінастужка кранула сэрцы шматлікіх гледачоў, асабліва з краінаў СНД, асэнсаваннем галоўнай ідэі, блізкасцю тэматыкі. Кінакадры, дзе жыхары вёскі пад праліўным дажджом носяць вёдры з зямлёю, каб насыпаць узгорак, што павінен нарэшце стаць гарою, нагадалі здымкі ў хатнім фотаальбоме, на якіх "журфакаўцы" 70-х крочаць дасыпаць Курган Славы пад Мінскам. Наш курган і сёння стаіць, а ў валійскай вёсцы ўзгорак так і застаўся ўзгоркам. І яшчэ засталася прыгожая легенда (у аснове стужкі — рэальная гісторыя) і людзі, якія і сёння гатовы па першаму закліку схапіцца за вёдры.

Сітуацыю на Маскоўскім МКФ многія іранічна параўноўвалі з тым узгоркам з фільма Мангера, маўляў, колькі ні дасыпай зямлі на ўзгорак, гары ўсё роўна не атрымаецца...

Галоўнай тэмай фестывальных фільмаў, напэўна, з'яўляецца тэма смерці, дакладней, паводзін чалавека ў перыяд пераходу ў іншае вымярэнне, калі ён вяртаецца, нарэшце, да самога сябе. У стужцы маладога венгерскага рэжысёра І.Пачкоўскага "Дзівоснае вандраванне Эшці Корнэла" ўплыў Вялікага Вісконці адчувальны нават у мізансцэнах фільма; а заключны кадр дакладна цытуе кадр "Смерці ў Венецыі". Гэты фільм пра слыннага пісьменніка, які на сыходзе жыцця сустракаецца з уласным юнацтвам, яшчэ гадоў пяць таму мог бы, мабыць, прэтэндаваць на галоўны прыз. Але сёння... Сёння гэта ўспрымаецца толькі як узор прафесіяналізму, не болей.

Калі казаць пра стужкі з Усходняй Еўропы, дык варта адзначыць зварот рэжысёраў да гістарычнай тэматыкі з новага, іранічнага пункту погляду. Работа маладога чэшскага рэжысёра Мілана Штайндлера "Дзякуй за кожную новую раніцу" была адзначана прэміяй за рэжысуру. Фільм, зняты ў жанры так званай "горкай камедыі", — працяг шырока вядомай тэмы "маленькага чалавека". Але ў ягонай ролі ў дадзеным выпадку выступае дзяўчына велізарнага росту з усімі складанасцямі яе жыцця.

У зусім іншым ключы створана стужка югаслава Жэлiміра Жылніка "Мармуровая задніца" (ягоны папярэдні фільм "Так гартавалася сталь" стаў у 1989 годзе сенсацыяй ММКФ). І асабісты лёс рэжысёра: эміграцыя з Югаславіі, жыццё ў Мюнхене і спроба растлумачыць наведнікам баварскіх піўных свае жыццяпогляды... Апошняя стужка, "Мармуровая задніца", зроблена ў тыповай манеры "чорнага" кіно з матывамі настальгіі па згубленым пакаленні. Дзеянне стужкі праходзіць на мірнай тэрыторыі, але адразу зразумела, што яна знята ў краіне, у якой адбываецца вайна, і ўсе каштоўнасці аказаліся перакуленымі. Герой фільма: трансвесціст, прастытутка, мужчына, які болей не жадае заставацца мужчынам, не падаюцца больш ненармальнымі, чым "нармальныя", якія лёгка забіваюць чалавека... У рабоце Жылніка адсутнічае спекулятыўны падыход да надзённых тэм, але і адсутнічае тое, што робіць стужку на любую тэму мастацкім творам... Падаецца, што спалучэнне палітыкі і сексу стала лейтматывам творчасці рэжысёра.

Цудоўнай падзеяй фестывалю стаў фільм японскага майстра Канэта Сінда, аўтара слыннага "Голага вострава". Дарэчы, ягоны фільм "Пасляабедзены тэстамент" быў адным з прэтэндэнтаў на галоўны прыз фестывалю. Ён атрымаў прэстыжную прэмію ад гільдыі кінакрытыкаў Расіі. Сінда на зыходзе жыцця зняў тонкі высокапрафесійны фільм на тэму развітання з жыццём, жыццём, у якім было ўсё — мастацтва, каханне, творчасць...Можна сказаць, што ў сваім фільме рэжысёр абыграў уласныя матывы і ўласную эстэтыку. Стужка адметная таксама імкненнем спалучыць усходнюю філасофію і еўрапейскі экзістэнцыялізм.

Усход быў прадстаўлены невядомым нам пакуль што кінематографам Сінгапура. Фільм рэжысёра Эрыка Кху "Гандляр лапшою", які распавядае пра гісторыю адносін паміж гандляром харчоўні і прастытуткай, прадстаўляе своеасаблівую "новую хвалю" Сінгапура. У ёй адчуваецца ўплыў эстэтыкі ранняга Гадара, Бліе, Бенэкса. А таксама Педра Альмадавара. У дадзеным выпадку мноства культурных адсылак сведчаць не пра эстэтычную самастойнасць рэжысёра. Ён паспрабаваў арыгінальна спалучыць матывы еўрапейскай культуры і нацыянальнай эстэтыкі. Цікава,

Мраморная задница


Сельская жизнь


Послеобеденное завещание

Марио и волшебник


Твоя жизнь-опыт расследования


Французская женщина

СТОП-КАДР

што яшчэ адна стужка гэтага рэжысёра "Боль" пра паліцэйскага-садыста была доўгі час забаронена, пакуль не атрымала прыз на VII нацыянальным кінафестывалі.

Здаецца, што залішняя сур'ёзнасць некалькі пашкодзіла самай прэміраванай стужцы ММКФ пад назвай "Французская жанчына" славутага рэжысёра з Францыі Ражэ Варньё. Гераіняй яе стала жанчына незвычайнага лёсу, што дало падставу аўтару аднаго з фестывальных артыкулаў выказаць думку, маўляў, паводле Варнье, ідэалам французскага народа з'яўляецца шлюха. Як адзначыў сам рэжысёр — нельга звяртаць увагі на прыватную думку, тым больш, што ў аснову стужкі пакладзена рэальная гісторыя яго маці. Зразумела, што ў мастацкім творы прыватная гісторыя асобнага чалавека набывае асаблівы сэнс... Іграе сапраўдны муж актрысы Эммануэль Беар — Даніэль Аттэй. Але ўзнагароду за лепшую мужчынскую ролю атрымаў яго экранны сапернік — Габрыэль Барыі.

Стужка распавядае пра каханне, што "падобнае да смерці" і ад якога сапраўды можна памерці.

Паказальна, што падчас прэс-канферэнцыі старшыня журы спадар Рычард Гір на пытанне пра любімыя стужкі адказаў, што для яго істотным з'яўляецца перш за ўсё тое, каб фільм закрануў сэрца і душу. Сказана гэта было менавіта пра "Французскую жанчыну". Бязумоўна, гледачы, і асабліва жаночая частка глядацкай аўдыторыі, будуць захоплены гэтай шчырай гісторыяй жыцця і кахання.

Прыз за лепшую аператарскую працу быў адзінадушна прызначаны Лаяшу Калтаі, аператару фільма "Марыя і чараўнік". Гэтая стужка, дзе ў якасці сцэнарыста, рэжысёра і акцёра задзейнічаны славуты Карл-Марыя Брандаўэр, атрымала таксама ўзнагароду фонду імя Андрэя Таркоўскага. Стужка працягвае тэму, вельмі блізкую Брандаўэру, —тэму асобы і ўлады, таленту і кампрамісу, індывідуальнасці і натоўпу. Дзеянне фільма адбываецца ў Італіі напярэдадні Другой сусветнай вайны. Стужка Брандаўэра стала ўзорам класічнай мастацкай работы, якая магла б паставіць кропку ў тэме ўплыву Вісконці на эстэтыку сучаснага кінематографа. Але, здаецца, для самога Брандаўэра знойдзеная стылістыка становіцца прыкметай уласнага стылю.

Стылістыка "рэтра", вырашаная на даволі высокім выяўленчым мастацкім ўзроўні адзначала і фільм аўстралійскага рэжысёра Майкла Бэрымора Блэйкмара "Сельскае жыццё", які аказаўся аўстралійскім "Дзядзькам Ванем". Так, дзядзька Ваня стаў дзядзькам Джэкам, а вытанчаны псіхалагізм Чэхава, перанесены на аўстралійскую глебу, даў своеасаблівы парастак.

Узровень фестывалю, як ужо адзначалася, вызначае не толькі конкурсная праграма. І ў дадзеным выпадку Маскоўскі МКФ прадэманстраваў, што краіна валодае сапраўды высокапрафесійнымі кадрамі з адметным эстэтычным густам. Пазаконкурсная інфармацыйная праграма складалася з 15 кінапраграм, якія. дэманстраваліся на розных пляцоўках Масквы. Немагчыма прааналізаваць іх на працягу цэлага каляндарнага года, бо кожная прэзентавала асобнае відовішча.

Рэтраспектыва прысвячалася 100-годдзю кінематографа: дэманстраваліся стужкі Жана Віго, Чарлі Чапліна, Рэнэ Клера, Франсуа Труфо. Упершыню давялося ўбачыць праграму геніяльнага суайчынніка Аляксандра Аляксеева, а таксама фільмы "З гісторыі рускага кінапрадпрымальніцтва" і праграму "Рускі кінематограф на эміграцыі". Немагчыма нават пералічыць усё тое, што хацелася б адзначыць. Галоўнай праблемай быў, вядома, недахоп часу і немагчымасць "объять необъятное".

Асаблівую цікавасць прыхільнікаў кінамастацтва выклікалі спецыяльны паказ "20-годдзе міжнароднага форуму маладога кіно ў Берліне" і праграма "Амерыканскіх незалежных". Прадстаўнікі гэтай арганізацыі ўпершыню прысутнічалі ў Маскве з вялікай прадстаўнічай дэлегацыяй і змястоўнай праграмай. Іх канцэпцыя незалежнасці, сфармуляваная дырэктарам кінаархіва Каліфарнійскага універсітэта Бобам Розэнам, утрымлівае наступныя пункты: свабода выбару зместу і стылю, моцная асабістая накіраванасць і абмежаваныя фінансавыя магчымасці. З гэтага, апошняга пункту гледжання, амаль увесь фестываль можна лічыць незалежным. Падалося, што для шматлікіх удзельнікаў фестывалю пытанне "З кім вы, майстры культуры" —ужо вырашана. Як выказаліся прадстаўнікі незалежных, "Чалавек, у якога ёсць пачуццё адказнасці перад мастацтвам і гледачамі, павінен быць незалежным".

Прыемнай нечаканасцю можна назваць праграму кінематаграфістаў Канады, якая была прадстаўлена шэрагам высокапрафесійных работ. Але сапраўднай сенсацыяй ММКФ стала стужка кубінскіх кінематаграфістаў Т.Г.Алеа і Х.К.Табія "Клубніка і шакалад", якая атрымала на Берлінскім МКФ "Сярэбранага мядзведзя". У яе актыве — усе прэстыжныя ўзнагароды лацінаамерыканскіх кінафестываляў і намінацыя на "Оскара". Па чутках, у час дэманстрацыі фільма на радзіме ўся Куба стаяла ў чарзе ў кінатэатры.

Гэты фільм незвычайны не толькі смелымі выказваннямі аднаго з яго герояў-дысідэнтаў і не толькі тым, што галоўная тэма — тэма жарсці мужчыны да мужчыны. Як ні дзіўна, але фільм прадэманстраваў, што самая "модная" або "чорная" тэма можа стаць тэмай для мастацкага ўвасаблення. Фільм пра стасункі двух маладых мужчын у таталітарнай краіне зроблены дастаткова тонка, тактоўна, з пэўным мастацкім густам.

Можна было б расказваць бясконца: і пра начны клуб "Пілот" і ягонага маладога гаспадара Антона Табакова, і пра "тусоўкі" розных дэлегацый, і яшчэ пра многае. Але галоўнае, што фестываль — гэта свята, і атмасфера свята была ўсё ж такі захаваная.

Існуе выказванне: "Кіно —гэта яшчэ больш жыццё, чым само жыццё". І далей: "Ах, жыццё вакол кіно! Ты яшчэ больш кіно, чым само кіно!" Але добра, што ёсць месца, дзе ўсё гэта — і жыццё, і кіно — спалучаецца. Месца гэтае — фестываль.

**Галіна ШУР,**
**спецыяльна для штотыднёвіка "Культура"**

*На ілюстрацыях: кадры з фільмаў-прызёраў XIX ММКФ.*




# "АНДАЛУЗСКІ САБАКА", ШТО БЯЖЫЦЬ ПА КРАІ РЫЖСКАГА ЗАЛІВА








Усё пачалося дзевяць гадоў таму, у дні святкавання 90-годдзя паказу першага кінасеанса ў Латвіі. У рыжскім Доме ведаў сабраліся прадстаўнікі "маладога савецкага" кіно. У тыя часы слова кінаавангард яшчэ раздражняла вуха чыноўнікаў, яго імкнуліся не вымаўляць. Аўгуст Сукут гэтае слова вымавіў уголас.

Выпускнік майстэрні Мікіты Міхалкова, зразумеўшы, што змагацца за ўплыў з людзьмі, якія арыентуюцца на гучныя імёны кіназорак, бессэнсоўна, сканцэнтраваўся на авангардзе. Так нарадзіўся адзіны ў былым Саюзе фестываль авангарднага кіно "Арсенал", які хутка ўвайшоў у міжнароднае фестывальнае жыццё і зрабіў Рыгу адным з цэнтраў кінаавангарда.

Сёлета прэзідэнт кінафоруму Аўгуст Сукут сабраў прыхільнікаў кінаавангарда з нагоды нечуванай у наш час падзеі — адкрыцця ўласнага кінатэатра, названага ў гонар знакамітага фільма Бюнюэля "Андалузскі сабака". У якасці сімвала кінатэатра абралі класічны кадр з вышэйпамянёнага фільма — чалавечае вока, якое разразаецца лязом.

Здавалася б — дзеля чаго пачынаць будаўніцтва кінатэатра, калі яго можна было проста набыць? Тым больш, што цана будаўніцтва, скажам, для Беларусі падасца нерэальнай — мільён долараў. А тут яшчэ трэба адпрацаваць складаную пракатную тэхналогію, пашырыць кантакты з дыстрыб'ютарамі і ўтрымаць гледача. За гады існавання "Арсенала" ў Рызе з'явіўся глядач, для якога аднаго тыдня кінамарафона раз на два гады мала. Дзеля гэтых гледачоў Сукут і пайшоў на будаўніцтва кінатэатра.

Дарэчы, была вялікая праблема з паказам старых стужак на вялікім экране. Аднак, Сукут вырашыў і гэтую, складаную нават для спецыялістаў задачу. Рыжскія майстры зрабілі унікальную працу — скамбінавалі 16-міліметровы кінапраектар з 35-міліметровым. Новая ўстаноўка стала прадметам асаблівага гонару Аўгуста. Да кастрычніка ён плануе набыць гукавую сістэму Dolby Stereo, без якой немагчымы якасны паказ сучаснага еўрапейскага кіно.

Звычка ўсё рабіць у адзіным экземпляры і ў жанры адбіваецца на ўсім. Часам у дні правядзення "Арсенала" па Рызе гуляе бясконцая колькасць двайнікоў Чапліна. Іншым разам месца правядзення фестывалю застаўлена неверагоднымі металічнымі канструкцыямі, якія да вечара акупіруюць дзеці, і становіцца зразумелым, што гэта арэлі. Перад цэнтральным уваходам на дне басейна, што запоўнены карпамі, манціруецца кінаэкран, на які праецыруюцца фільмы. А зверху ўсё гэта, у залежнасці ад часу дня, нагадвае квадраты Малевіча.

На адкрыцці кінатэатра Аўгуст Сукут у чарговы раз вылучыўся.

Пасля паказу "Андалузскага сабакі" Бюнюэля ў рэстарацыі кінатэатра гасцей чакаў сюрпрыз. На сервіраваным стале стаяў белы, жалезны ложак — дакладна такі, вакол якога разгортваюцца падзеі ў знакамітым фільме.

На гэты раз на адкрыццё былі запрошаныя ў асноўным дыстрыб'ютары, якім было растлумачана, што ў кінатэатры на 196 месцаў не будзе камерцыйных паказаў. Два-тры сеансы з коштам квіткоў у два долары — гэта, мяркуе Сукут, не бізнес.

Ствараючы фестываль, спадар Сукут не разлічваў на дапамогу дзяржавы. Прыйшоў час, і "Арсенал" прызналі. Некалькі гадоў таму яму надалі статус Нацыянальнага. І ўжо летась дзяржава выдзеліла суму, што складае чвэрць усяго каштарысу. Аўгуст Сукут спадзяецца, што сёлета будзе прыняты новы Закон аб кіно, у рабоце над праектам якога ён браў удзел. У законе прадугледжваецца льготнае падаткаабкладанне для набыцця кінаапаратуры і кінаплёнкі.

За гэтыя гады сабрана унікальная калекцыя савецкага аўтарскага кіно. Пяцьсот фільмаў, знятых у СССР з 1915 да 1986 года. Фільмы Параджанава, Сакурава, Германа, Абуладзе, Міхалкова, Аўчарова.

Ёсць у Аўгуста Сукута мара — заснаваць Фонд па стварэнні эксперыментальных фільмаў і экспрэс-майстэрняў, у якіх будуць выкладаць вядучыя майстры сусветнага кіно. Вучэбны семінар, праведзены летась у кастрычніку ў рамках "Арсенала" ў Юрмале Джонам Джостам і Міхаілам Пілцам, быў, па словах Сукута, усяго толькі эпізодам, але праз тры гады ён збіраецца пабудаваць у Юрмале дом для такіх майстэрань. Усё, чым займаецца Сукут, — так ці інакш тычыцца кіно. У бліжэйшай будучыні, калі прыйдуць лепшыя часы, спадзяецца заняцца і прадзюсерскай дзейнасцю.

Было б далёка ад ісціны ўявіць сабе Аўгуста Сукута такім бяссрэбранікам ці дзівакаватым фантазёрам. Нават па сённяшніх меркаваннях, ён — вельмі паспяховы бізнесмен. Тыя, хто з ім працуе, вельмі добра ведаюць, што ў стасунках з падначаленымі Сукут можа быць жорсткім і нават бязлітасным. Звонку ён робіць уражанне халоднага аскета. Мабыць, так яно і ёсць. Толькі наўрад ці можна назваць скончаным "сухаром" чалавека, якому прыйшла ў галаву ідэя падаць на фуршэце пасля паказу на адным з фестываляў фільма "Браняносец Пацёмкін" шнапс у ахаладжаных бутэльках. Намёк быў зусім відавочны — гасцям прапаноўвалася параўнаць сябе не з паўстаўшымі маракамі, а з афіцэрамі, што п'юць гарэлачку на верхняй палубе карабля. Мерапрыемства спадара Сукута выглядае дастаткова экстраардынарна. На Беларусі падобныя паводзіны прадпрымальніка, што бярэ доўгатэрміновыя крэдыты пад будаўніцтва кінатэатра, успрымаліся б проста як "сюр", як штосьці за рамкамі зразумелага.

**Алена ЛУКАШЭВІЧ**

ДОЙЛІД І ЧАС

# "БУДАВАЦЬ СЁННЯ ТАК, КАБ ЗАЎТРА НЕ БЫЛО СОРАМНА"

***Адзін з выбітных беларускіх архітэктараў Георгій Заборскі нядаўна першым сярод дойлідаў краіны быў удастоены гонару выбрання замежным членам Расійскай акадэміі архітэктуры і будаўнічых навук. Наш карэспандэнт сустрэўся з ім у ягонай кватэры, адзін з пакояў якой з'яўляецца хатняй майстэрняй.***

**— Георгій Уладзіміравіч, мне прыемна павіншаваць Вас са званнем акадэміка. Не сумняваюся, што гэта прыемна і Вам, хаця званняў і ўзнагарод Вам не бракуе. Вы — народны архітэктар СССР, заслужаны будаўнік Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР і іншых высокіх прэмій, маеце баявыя і працоўныя ўзнагароды, медаль імя Францішка Скарыны...**

— Дзякуй за віншаванні. Безумоўна, мяне радуе новае высокае званне, хаця, прызнаюся, слова "замежны" ў спалучэнні са словам "расійскі" гучыць неяк нязвыкла. Я скончыў Расійскую акадэмію мастацтваў у Ленінградзе, прызначэнне па конкурсе атрымаў у Маскву, ваяваў за Радзіму на тэрыторыі Расіі. Але што ж паробіш, калі зараз мы — падзеленыя... Але ж усе архітэктары незалежна ад нацыянальнасці робяць адну і тую ж справу — будуюць, упрыгожваюць гарады і вёскі.

**— І Вы, Георгій Уладзіміравіч, маеце значныя поспехі ў гэтай галіне. У гарадах Беларусі, асабліва ў Мінску, нямала будынкаў і помнікаў, зробленых па Вашых праектах. Вы зрабілі вялікі ўнёсак у стварэнне праспекта Скарыны, ягоных плошчаў і сквераў. Немагчыма абыякава глядзець на вуліцу Леніна, будынак вайсковай вучэльні, кінатэатр "Піянер" з тэатрам лялек, гатэль Савета міністраў і шматлікія іншыя пабудовы.**

— Сапраўды, мне пашчасціла ўвасобіць у жыццё большасць сваіх творчых планаў.

**— Вы мне неяк распавядалі, як на пачатку сваёй кар'еры бралі ўдзел у праектаванні Палаца Саветаў у Маскве?**

— Гэта не зусім так. Пры размеркаванні я атрымаў прызначэнне ў адну з брыгад праекціроўшчыкаў, якую ўзначальваў вядомы архітэктар Мяржанаў. Мне нават выдзелілі пакой у Маскве. Але Палац, як вядома, не быў пабудаваны — перашкодзіла вайна. Але я прапрацаваў там усяго некалькі месяцаў. Памятаю, як аднойчы, выконваючы нейкія даручэнні і носячыся па горадзе, я раптам пачуў: "Жора!" Азірнуўся, сам Іосіф Рыгоравіч Лангбард, мэтр нашай архітэктуры, па праектах якога ў Мінску пабудаваны Дом урада, Дом афіцэраў, Акадэмія навук, Тэатр оперы і балета... "Што, — пытаецца, — ты тут робіш?" Я распавёў. А ён пахітаў галавой, маўляў, не з таго, хлопец, пачынаеш. "Сапраўды, вучыцца трэба ў вялікіх культурных цэнтрах, а самастойную працу пачынаць у невялікіх гарадах. У Мінску для цябе знайшлася б сур'ёзная, самастойная справа. Ну, а пакуль бяжы, калі паслалі, і падумай..." Вось я і задумаўся. А хутка мяне выклікалі і кажуць, што беларускае кіраўніцтва патрабуе майго пераразмеркавання. Я адразу пагадзіўся. "Пастараўся", як аказалася, Лангбард, але я па сёння ўдзячны за гэта Іосіфу Рыгоравічу. У Мінску я пачаў ствараць сваю майстэрню, глыбока вывучаць самабытную беларускую архітэктуру, атрымаў першую прэмію за праект манумента ў гонар аб'яднання ўсходніх і заходніх беларускіх земляў. Калі б не вайна, ён зараз стаяў бы ў цэнтры Беластока.

**— А часта Вам так не шэнціла?**

— Даводзілася. Не давялося, да прыкладу, цалкам увасобіць праект забудовы плошчы імя Леніна (цяпер плошча Незалежнасці), генеральны план забудовы Полацка. Але пасля вайны працы хапала, было што аднаўляць і што будаваць наноў.



**— Дарэчы, пра вайну. Вы пайшлі на фронт добраахвотнікам, былі цяжка параненыя, але, лежачы на шпітальным ложку, пачалі маляваць эскізы помніка Перамогі, які ўсталяваны ў Мінску. Гэта было ў цяжкім 42-м, калі яшчэ не было бачна і канца вайне...**

— Я верыў у перамогу. Рабіў эскізы трыумфальнай аркі, пантэона, помнікаў у гонар пераможцаў. Маляваў на ўсім, што траплялася пад руку: на кавалках паперы, палях газет, на пакунках ад бінтоў. Аднойчы ў шпіталь, а было гэта на Урале, у горадзе Троіцку, прыехаў Мікалай Сямёнавіч Паталічаў, тады першы сакратар Чалябінскага абкама партыі, зайшоў да нас у палату, папытаўся пра маё самаадчуванне, пра тое, чым я займаўся да вайны, а потым раптам просіць: "Пакажыце мне, калі ласка, вашыя малюнкі". Я здзівіўся — адкуль ён ведае? — але, безумоўна, паказаў. А Паталічаў і кажа: "Ведаю, што вы з Беларусі, папраўляйцеся, усё гэта вельмі спатрэбіцца".

Паталічаў пасля вайны быў абраны першым сакратаром ЦК кампартыі Беларусі, мы сустрэліся і ён узгадаў пра мае эскізы і сказаў: "Дык што ж, будзем будаваць помнік Перамогі?" Калі будавалі праспект, нашы архітэктары і будаўнікі разам з кіраўніком рэспублікі і горада па начах, калі сціхалі гарадскі шум і рух, на месцы ўдакладнялі дэталі, ход работ. Тады і было абрана месца для манумента Перамогі ў цэнтры, які называўся тады "Круглай плошчай". Гэты помнік стаўся сімвалам адроджанай сталіцы Беларусі.

**— А адной з прыгажэйшых вуліц горада сталася Ленінская. Заір Азгур параўноўваў яе з вуліцай Росі ў Санкт-Пецярбургу.**

— У Мінску і ў Беларусі шмат прыгожых вуліц і будынкаў. Яны створаны талентам архітэктараў Караля, Воінава, Гусева, Сакалоўскага, Патапава, Гегарта і шмат каго яшчэ, а таксама моладзі, што прыйшла ім на змену. Азіраешся на зробленае за паўстагоддзя і душа радуецца: мы змаглі аднавіць і пабудаваць колькі новага!

**— Але шмат і такога, што не радуе. Напрыклад, "хрушчоўкі", жыццё якіх, як вядома, нядоўгае.**

— Гэта было вымушана. Людзі жылі ў бараках, зямлянках, скляпеннях. Трэба было як мага хутчэй даць ім хаця якое-небудзь жыллё. А нас тады лаялі за "ўпрыгожванне" і "залішняе".

**— Дарэчы, пра гэтую кампанію. Як Вы да яе паставіліся?**

— На гэтае пытанне адказаць няпроста. Калі няма дзе галаву пакласці, дык рады і цеснаму калідорчыку і нізкай столі. Але і без прыгажосці жыць нельга. Шэрасць не радуе ні вока, ні сэрца. Цяпер дамы шмат лепей: кватэры больш прасторныя і звонку больш прыемныя, але аднастайнасць засмучае.

Мне тады таксама дасталося "на арэхі". За суворaўскую вучэльню. Абвінавацілі ў залішнім ўпрыгожванні. Але ж будавалася не казарма, а навучальная ўстанова, дзе выхоўвалася будучыня нашай арміі, нашага афіцэрства. Як жа можна было абысціся без прыгожай лесвіцы, без цырыманіяльнай залы, сталоўкі рэстараннага тыпу. Ды і фасад будынка, на маю думку, павінен быць прывабным, радаваць вока сваёй манументальнасцю.

**— Ну і?..**

— Абышлося. Вайскоўцы заступіліся. Забралі, можна сказаць, з "лавы падсудных". Суворaўская вучэльня была любімым дзіцем Маршала Савецкага Саюза Цімашэнкі. Ён і дом сабе загадаў будаваць побач з гэтай будоўляй, якая ішла ўдзень і ўначы. Штодзённа, дакладна ў восем раніцы, абыходзіў ён аб'ект, на месцы вырашаючы ўсе пытанні.

Люблю іншым разам зазірнуць туды: прыгожа! Далібог, нічога залішняга, за што мяне трэба было б пакараць. Кожны архітэктар павінен мець свой творчы твар, улічваць час, абставіны, ведаць, для каго будуеш. Трэба быць сучасным у лепшым сэнсе гэтага слова. Будаваць сёння трэба так, каб не было сорамна заўтра. Прыгожае доўга служыць людзям.

Вось вы ўзгадалі Ленінскую вуліцу. А ўявіце сабе, як упрыгожыла б яе невялікая вежачка над домам, дзе зараз рэстаран "Патсдам"? Я змагаўся за яе, як мог, але давялося саступіць.

Тое, ад чаго мы раней вымушаны былі адмаўляцца, зараз выкарыстоўваюць нашыя маладыя дойліды, час патрабуе і вежы, і аркады, і ліхтары, і каланады, і ўнутраныя дворыкі, і зімовыя сады... Так што нашыя напрацоўкі не прапалі дарма. Я гэта і ўбачыў у майстэрні свайго сына Аляксандра. Дамы, якія ён праектуе, маюць утульную планіроўку, радуюць сваім вонкавым выглядам, арыгінальнасцю. Але пакуль гэта па кішэні далёка не ўсім, але часы зменяцца да лепшага, людзі будуць жыць больш заможна, і фантазія архітэктараў будзе мець вялікі кошт.

**— Вы дойлід-горадабудаўнік і раптам заняліся вясковым будаўніцтвам. Больш за тое, з'явіліся першаадкрывальнікам гэтай важнай справы. Чаму?**

— Гэтай працы я аддаў шмат сіл, гадоў трыццаць жыцця. А адбылося гэта так. Мяне запрасілі ў Дзяржбуд і сказалі: "Час ужо, Георгій Уладзіміравіч, зрабіць што-небудзь і для вясковых жыхароў. Вы заўсёды знаходзіліся ў авангардзе, не трэба зараз пераходзіць у абоз."

Я доўгі час прапрацаваў у БелНДІдзіпрасельбудзе, аб'ездзіў мноства калгасаў і вёсак. І нарадзіліся генеральныя планы забудовы цэнтральных сядзібаў калгасаў. Прашу мець на ўвазе, што не быў архітэктарам-самотнікам. Шмат зрабіў сам, шмат разам з паплечнікамі. Дзяржаўную прэмію СССР мы атрымалі разам з архітэктарам Емяльянавым за вёску Верцялішкі Гродзенскай вобласці. Свой унёсак у наш поспех зрабіў трэці лаўрэат, старшыня калгаса "Прагрэс" Сянько. Мы пабудавалі новую вёску, дзе ў цэнтры месціліся адміністрацыйныя будынкі, Дом культуры, гандлёвы цэнтр, закрыты басейн. Мураваныя жылыя дамы стаяць у зялёных дворыках, замест платоў — клумбы, зроблены парк з дубам над невялікім азярцом, а як успамін пра старую вёску адкрылі музей "Скрып старых дзвярэй".

**— Вашыя вёскі, як вядома, атрымалі прызнанне, і не толькі ў рэспубліцы.**

— Мы ішлі новым шляхам, знаходзіліся ў несупынным пошуку. Хацелася, каб адна вёска не была падобная да іншай. Улічваліся мясцовыя асаблівасці, звыклы сялянскі побыт і ў той жа час элементы новай культуры, што прыйшла на сяло. Мы зыходзілі з таго, што ў хатах павінны быць сучасныя зручнасці, гарачая вада, тэлефон, патрэбна святло на вуліцах. У рэшце рэшт калгас "Світанак" імя Кірылы Арлоўскага ў вёсцы Мышкавічы адрозніваецца ад калгаса "Чырвоная змена" ў вёсцы Сарачы, ад калгаса "Прагрэс" у вёсцы Верцялішкі.

Аб'ядноўвае іх адзінае: яны прыгожыя, добраўпарадкаваныя, тут прыемна жыць, працаваць і адпачываць. Ну, да прыкладу, у калгасе імя Арлоўскага пабудаваны Палац культуры з цудоўным зімовым садам, дзе растуць пальмы, струменяць фантаны, дзе можна добра бавіць час у халодныя асеннія ці зімовыя вечар. Паўтараю, я працаваў разам з аднадумцамі. Разам са мною працавалі маладыя архітэктары Новаш, Нардштэйн, Байцова, мая дачка Алена, што трагічна загінула, і іншыя таленавітыя дойліды. Яны зрабілі свой унёсак у тое, што мы бачым зараз.

Архітэктуру паэтычна называюць музыкай у камені. Трэба, каб яна гучала і радавала людзей.

* * *

Патрыярх беларускага дойлідства карыстаецца пашанай сваіх таварышаў, у моладзі. Яны — нашчадкі ягонай адданасці справе, творчай фантазіі і веры ў стваральную сілу прыгажосці.

**Гутарку вёў Аркадзь КАПІЛАЎ**

*На здымку: Георгій Уладзіміравіч Заборскі.*

# КАЛЕКЦЫЯ ФІРМЫ

*"Усё ляціць міма вачэй, сыходзіць без звароту ў туманнае забыццё. І толькі жывапісец мастацтвам сваім спыняе на палатне вар'яцтва знішташэння".*

***А.М.Талстой.***

Толькі мастацтва, адлітае ва ўстойлівыя формы, застаецца вечным сведкай мінуўшчыны, які працягвае жыць у сучаснасці і будучыні. Мастак у сваёй працы над карцінай толькі даводзіць працу самога часу над прадметам да магчымай дасканаласці.

Кожны мастак шукае свой шлях да спасціжэння ісціны, і кожны мастацкі твор павінен прайсці праз сучаснасць, якая часта памыляецца, і толькі час выпраўляе ўсе памылкі. Але для таго каб твор мастацтва ацанілі і прынялі сучаснікі і нашчадкі, ён павінен застацца ў сябе на радзіме.

Культура развіваецца зусім не па прынцыпе натуральнага адбору, ёй патрэбны ўрадлівая глеба і спрыяльныя ўмовы. Таму жыццёва неабходнае для нас сёння адраджэнне айчыннага мецэнацтва, што паслужыць надзейным апірышчам крохкаму будынку мастацтва.

Мецэнатам суджана стацца не кожнаму. Бо апрача матэрыяльных магчымасцяў тут неабходны саюз інтэлектуальнага падыходу з тонкай жывапіснай інтуіцыяй.

Калекцыя фірмы "Жыльбел", выстава якой адкрылася 17 жніўня ў Траецкім прадмесці, налічвае каля чатырохсот твораў і з'яўляе сабой шырокі пласт беларускага сучаснага мастацтва. Дыяпазон прадстаўленых напрамкаў вельмі шырокі — ад класічнага акадэмізму да самых апошніх мадыфікацый авангарда. Бо крытэрый ацэнкі якасці ў "Жыльбеле" адзін — сапраўдна прафесійнае майстэрства.

Сучаснае мастацтва нікуды не кліча і не вядзе. У ім часта найвышэйшую цану мае не прыгажосць адлюстравання, а прыгажосць ідэі.

Крэда сучаснага мастака — роздум аб стане сусвету. Па гэтых працах нашыя нашчадкі будуць судзіць пра мастацтва нашага бурлівага часу.

**Алесь ТАРАНОВІЧ**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ

# У ПОШУКАХ... БЕЛАРУСІ

## З ДЗЁННІКА КРАЯЗНАЎЧАЙ ВАНДРОЎКІ

*(Працяг. Пачатак у № 31)*

### КСЁНДЗ, ЯКІ БУДЗЕ ЖЫЦЬ ВЕЧНА

Усім вернікам (як і палітыкам ад веры) патлумачу адразу (і думаю, што сказаць праўду — гэта не грэх): зусім не католік я, як і не праваслаўны. Не хрысцілі мяне ў царкве. Хаця і родам з вёскі праваслаўнай. Праўда, побач — традыцыйнае, калі мецъ на ўвазе папярэднія пакаленні, яўрэйскае мястэчка. Калі зазірнуць на паўтара стагоддзя назад, то і каталікоў хапала на нашай пухавіцкай зямлі. Ды яшчэ спрадвечныя літоўскія татары (хто ж яны — Мухі, Мурзіны, Паўтаржыцкія?!)... Беларусам адчуваючы сябе, я ўсё ж інтэрнацыяналіст-бязбожнік у павазе да веравызнанняў іншых, усялякіх, спадарожных гуманізму, чалавечнасці, культуры. Але ж



хопіць, відаць, рабіць рэверансы. Хопіць апраўдвацца. Няма за што зусім. Лепей — пра праўду галоўную, якую адкрыў і спазнаў у незвычайнай сустрэчы на віцебскай зямлі. На Глыбоччыне. У Мосары. З ксяндзом-пробашчам Ёзасам Булькам.

Хто быў у Мосары — той паверыць у сілу першага ўражання. Хто не быў — паедзьце, прайдзіцеся вакол касцёла. Ва ўсе вочы разгледзьце дзіўныя лілеі, што быццам намаляваныя ў ручаях. Пакратайце рукою шаўковыя травы. Дакраніцеся да пярэстых, шматколерных кветак. Здаецца, яны быццам па-майстэрску выразаны з далікатнай паперы. Ды толькі ж уся прыгажосць сапраўдная. А кветкі, трава, лілеі — падарожніцы з самых далёкіх ад Беларусі краін. І нават з Францыі. І нават з Кітая. Не было межаў для здзяйснення ў самога Федарука. А хто ж лепей за яго ведае стан сядзіб і паркаў, батанічных садоў па ўсёй Беларусі?! Мы ж таксама, вандроўнікі-шукальнікі, дзівіліся мосарскаму цуду. Такое ж і ў Мінску, у Цэнтральным батанічным садзе, не ўгледзіш. А там жа — дзесяткі людзей, вучоныя з кандыдацкімі і доктарскімі дыпломамі, мільённыя грашовыя субсідыі. У Мосары — адзін толькі ксёндз. Адзін толькі Ёзас Булька. На Беларусь, на Глыбоччыну, усяго сем гадоў як прыехаў. І гады ўжо немаладыя. Але ж столькі паспеў зрабіць.

Разам з ксяндзом ідзём на мосарскія могілкі. Агароджаў у кожнай з магіл няма. Затое ўсе могілкі акуратна абстаўлены металічнай агароджай. Па перыметры — сцежка. І пятнаццаць каплічак. У кожнай — увасабленне пэўнага этапу ў жыцці Хрыста. Усё разам — шлях Хрыста. Палотны належаць пэндзлю аднаго і таго ж віцебскага мастака.

— Мяркуем наступным годам заасфальтаваць дарогу ад храма да могілак, — гаворыць ксёндз. — І набудзем прыгожы катафалк. Будзем ладзіць прыгожыя провады вернікаў. Няхай у апошні шлях людзі адыходзяць урачыста, з годнасцю пакідаючы гэты свет, з годнасцю ўваходзячы ў вечнае жыццё.

Прадстаўнічым, годным падаўся і наш няспешны паход па мосарскай кальварыі. Пан Ёзас засведчыў, што вельмі актыўна (раней ці не да піянерскіх і камсамольскіх толькі спраў дапасавалася б гэтае слоўца) прыходзіць на могілкі моладзь. Штораз у суботу бавяць на кальварыі свой час хлопцы і дзяўчаты. Збіраюць смецце, вымятаюць сцежкі, рупяцца, каб чыстай была прастора вакол пайшоўшых ад іх родзічаў-папярэднікаў.

Корпалася ля сваіх сямейнікаў падчас нашай экскурсіі па кальварыі і немаладых гадоў кабета. Уважна павітаўшыся з ксяндзом, у адказ на пытанне, а дзе ж муж, жанчына сказала:

— Дужа шмат часу забіраюць могілкі...

— Дык гэта ж наш дом. Наш вечны дом, — толькі і заўважыў у адказ пан Ёзас.

Мы яшчэ доўга гутарылі з ксяндзом. Ён расказваў, як ходзіць на адляванне, як змагаецца ў сваёй парафіі з п'янствам. Згадаў пан Ёзас і тое, што ў набажэнстве, прысвечаным Святому Яну, у Мосары ўзялі ўдзел тысячы людзей. Які мінскі мітынг гатовы з гэткім мерапрыемствам колькасцю параўнацца?



... Ужо праз некаторы нас расказаў пра сустрэчу ў Мосары пісьменніку Яўгену Будзінасу. Расказаў у тыя хвіліны, як прыцемкамі, стомлены, вяртаўся ён у Мінск са сваёй сядзібы. Ці з колішняй зямелькі славутых Ельскіх. З той зямелькі, якую, вывеўшы з калгаснага карыстання, імкнецца ён зрабіць адухоўленай, вольнай. Ды шмат што не атрымліваецца... Разам і падзівіліся мосарскаму цуду-ксяндзу, яго унікальнай здольнасці быць вялікім арганізатарам, выканаўцай, быць вялікім працаўніком. Такіх жа па сённяшнім часе адзінкі. На вялікую Беларусь — толькі АДЗІНКІ! Няўжо ўсяму мы развучаныя? Няўжо ні на што не здольныя, калі навокала — гібенне і пустэча?

Адказ на пытанні даць можа толькі праца. І зусім няважна якая — па адраджэнні гістарычных сядзіб ці па вяртанні страчанай за стагоддзі духоўнасці. Пасля той жа амаль што маўклівай размовы з Будзінасам я прачытаў яго — пісьменніка — выступленне на леташнім Кангрэсе беларускага ПЭН-цэнтра. Прачытайце і вы: "У вар'яцкую часіну, калі задача выбару аказалася раптам першачарговай, калі само жыццё спынілася на раздарожжы і ўсе мы раптам патрапілі на дыбу раздзіраючых супярэчнасцяў, роля інтэлігенцыі вырасла ў прагрэсіі не геаметрычных, а тэрмаядзерных правіл. Нам выбіраць. Скажам дакладней: абазначыць і назваць выбар. Пры гэтым няўмольна: ён павінен быць абумоўлены тым, што патрэбна народу. Не рэферэндум, з яго казуістыкай фармулёвак, што зводзіць да нуля ўсялякі сэнс. Не ўсенароднае абмеркаванне: народ не заўсёды разумее, чаго ён хоча, і на такім абмеркаванні не выстаяла б і табліца множання. Іншы інструмент разглядання нам дараваны, бо пісьменнік тады толькі пісьменнік, калі ён чуе і разумее свой народ".



А дзе ж пісьменнік, дзе ўся інтэлігенцыя, калі сыходзіць з вачэй, з відарысаў рэальнасці стагоддзямі стваральная прыгажосць? Хутка паўсюдна колішнія палацы, сляды сядзібаў можна будзе атаясамляць з рамантычнымі вобразамі. Як, прыкладам, зрабіў не адзін беларускі паэт.

*Руіны замка.*
*Дзікая зямля.*
*Ды чулыя наўкол кусты шыпшыны.*
*А на сцяне ўцалелай — твар жанчыны,*
*Наложніцы старога караля.*

Паэту Яго Вялікасць Час дарэ. За прыгожую легенду, за таленавіты радок. На тое ён і сапраўдны паэт. Як і хто даруе астатнім? Інтэлігенцыі — першачаргова...

У дні, калі адкрыў для сябе мосарскі цуд, меў яшчэ адну ўражлівую сустрэчу. Не буду называць яе адрас. Наўмысна. Такіх адрасоў — і аб гэтым сведчыць прафесар Федарук — па Беларусі можа быць некалькі. Ды і справа не ў месцазнаходжанні. А хутчэй, у непрыдуманым вобразе.

Уваходзім у сядзібу. Планіроўка ваколіц, традыцыйна багатая алея — усё сведчыць пра тое, што месца гістарычнае. А нас, вандроўнікаў, сустракае шлагбаўм. Энергічная, на падціку, жанчына патрабуе дакументы. І чаго таму дзівіцца: патрапілі ж мы не проста ў чыюсьці сядзібу, а ва ўстанову дзяржаўную. Патрапілі мы ў інтэрнат для псіхічна хворых. Словам, дом інвалідаў. Побач з колішнім панскім маёнткам — сучасныя дамкі для медыцынскага і адміністрацыйнага персаналу. І па ўсёй тэрыторыі шпындаюць засяроджаныя ў сабе людцы. Ды што пра іх — на ўсё Боская воля. Як і на тое, што выпіла крыху сустрэўшая нас жанчына. У доме інвалідаў — вяселле. На вуліцу вынесены кухонны стол. І накрыты сабе чалавечкі. На стале — колькі бутэлек, парэзанае на вялікія шматкі сала, хлеб, агуркі. У краіне, багатай на зялёную гародніну, у сядзібе з генетычнай памяццю пра беларускую арыстакратыю, — сапраўдны па сённяшнім часе баль (ёсць выпіць і закусіць!), а між іншым, краявід у тым доме інвалідаў — рэпінскага кшталту. Дык хто ж гэта павінен заўважыць?! Хто гэта разгледзіць?!

Там, у доме інвалідаў, які сваёй прысутнасцю ў гістарычнай сядзібе "олицетворяет" усю нашу савецкую (а цяпер ужо і постсавецкую) гісторыю, згадаўся і сапраўдны вандроўны анекдот. Ён надарыўся з экспедыцыяй у Лынтупах. Што ні кажы, пагранічная зона. Удзельнікаў падарожжа затрымалі (аб'ектыўна — былі без дазволу на блуканні па памежжы). І адвялі ў пастарунак. Склалі, як заўсёды бывае, пратакол. Выслухалі ўсе маралізатарствы афіцэра-пагранічніка. Уважліва, законапаслухмяна выслухаў усё і прафесар Федарук. Толькі ўжо напрыканцы размовы ў пастарунку Анатоль Тарасавіч заўважыў:

— Калі ў 1939 годзе Чырвоная Армія аб'ядноўвала Беларусь, у Шчорсах, пазіраючы на блізкае гібенне і развал, апошні з роду Храптовічаў — гаспадароў зрабіў такую заўвагу чырвонаармейскаму камандзіру: "Берите вы всё, что хотите. Не жгите только книги, господа большевики!".

Услед за Анатолем Тарасавічам, пазіраючы на рэпінскія краявіды, захацелася некуды, хаця б і ў паветра, сказаць вось што:

— ... Рабіце што хочаце. Губіце, знішчайце сябе. Толькі не нішчыце сядзібу! Пакіньце палацы для нашчадкаў!..

Так, уся Беларусь — суцэльны дом інвалідаў. Гістарычныя сядзібы сёння, іх стан, іх вонкавы выгляд, іх



духоўна-каменны боль — на тое сведчанне.

Як, якім чынам выкараскацца з гібення? Як выратаваць сядзібы — агульнанацыянальную памяць? І далей ліць нікчэмныя, няхай сабе і шчырыя слёзы?..

Выратаванне, адзін са шляхоў выратавання — у людзях. Такіх, як Федарук. Як Сяргачоў, які ці не тры дзесяцігоддзі вандруе па Беларусі, занатоўвае яе архітэктурную памяць. Як ксёндз з Мосара. Паболей бы такіх апантаных, здольных на працу людзей. На добрую працу.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

*(Заканчэнне будзе)*

*На здымках: сучасны стан колішніх гістарычных архітэктурных помнікаў высокага кшталту.*

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# ГАСПАДЫНІ-СПАДАРЫНІ



*Францішка Уршуля Радзівіл*

... Кажуць, у самую зорную асеннюю ноч запальваюцца самі па сабе ў залах гэтага палаца нетутэйшыя агні, пачынае гучаць ціхая, пругкая музыка і з'яўляюцца ледзь бачныя людскому воку цені. Жанчыны ў старажытных строях, якіх вядуць пад рукі галантныя кавалеры, выстройваюцца ў фігуры для менуэта. Гэта душы былых гаспадынь Нясвіжскага палаца зляталюцца сюды, каб успомніць пра сваё зямное жыццё, свае добрыя справы і міжвольныя грахі. А мужы прыўкрасных паняў у гэты час, таксама ў выглядзе ценяў, палююць у навакольных лясах...

Амаль пра кожную з княгінь Радзівіл — гаспадынь Нясвіжскага палаца — існуе сваё цікавае паданне.

Першай княгіняй Радзівіл, якая пасялілася ў Нясвіжскім палацы, была Альжбэта-Яўхімія з роду Вішнявецкіх, жонка Мікалая VIII Крыштафа Радзівіла Сіроткі. Менавіта ён замест нетрывалага драўлянага ўзвёў мураваны палац. Яна як магла дапамагала свайму энергічнаму, дзейнаму мужу абуладзіць Нясвіж, шмат займалася справамі міласэрнасці і, выконваючы сваю асноўную жаночую функцыю, нараджала дзяцей. З дзевяці выжылі пяцёра. Янушу Ежы, кашталяну трокскаму, пасля смерці бацькі ў 1619 годзе перайшоў ва ўладанне Нясвіж з яго палацам. Але ў 1619 годзе Януш Ежы Радзівіл быў ужо ўдаўцом і да самай смерці так другі раз і не ажаніўся. Наступнай гаспадыняй Нясвіжскага палаца стала жонка яго брата Альбрэхта Уладзіслава — Ганна Зоф'я Зяновіч.

Пра яе мала што вядома, акрамя хіба што гэта была вельмі набожная жанчына. Нездарма абедзве яе дачкі, Альжбэта і Канстанцыя, якім у 1636 годзе, па смерці бацькі, было ўсяго 7 гадоў і 1 год, пазней пастрыгліся ў манахіні.

Толькі каля года нясвіжскай гаспадыняй лічылася прыгажуня і разумніца Тэкля Ганна Валовіч, жонка самага малодшага з сыноў Сіроткі, Аляксандра Людвіка. Але яна так і не паспела пераехаць у Нясвіж. Калі ардынацтва нясвіжскае перайшло да яе мужа, Тэкля Ганна рыхтавалася стаць маці і, цяжка пераносячы свае становішча, жыла бязвыезна ў спецыяльна перабудаваным і пераабсталяваным для яе Аляксандрам Людвікам палацы ў Белай. Роды прайшлі няўдала — княгіня памерла.

Затое Нясвіж пабачыў дзвюх наступных жонак Аляксандра Людвіка — Эўгенію Катажыну Тышкевіч і Лукрэцыю Марыю Строцы. Аднак яны не пакінулі тут па сабе трывалай памяці.

У 1654 годзе, па смерці бацькі, нясвіжскім ардынатам становіцца любімы сын Аляксандра Людвіка, адзінае што выжыла дзіця прыгажуні Тэклі Ганны Валовіч, дзевятнаццацігадовы Міхал Казімір Радзівіл. У 1658 годзе ён ажаніўся з прыгожанькай удавіцай Катажынай з небагатага роду Сабескіх. Яна неўзабаве моцна паспрыяла кар'еры свайго мужа. У 1674 годзе нечакана для ўсіх польскі элекцыйны сейм зацвердзіў кандыдатуру новага караля. Ім стаў родны брат Катажыны — Ян Сабескі. Ад гэтага часу Міхал Казімір Радзівіл становіцца найбольш уплывовай асобай у дзяржаве, а Катажына — другой пасля каралевы дамай Рэчы Паспалітай. Сястра Сабескага, паводле ўспамінаў сучаснікаў, пастаянна ўмешвалася ў палітыку і ахвотна займалася інтрыгамі. Разам з мужам аб'ездзіла палову Еўропы з усялякімі дыпламатычнымі місіямі, на роўных размаўляла з манархамі іншых дзяржаў і нават з папам рымскім Інакенціем XI.

А ў Нясвіжскую скарбніцу тым часам перакачвалася шмат чаго са скарбаў караля Яна Сабескага і яго ваенных трафеяў.

У рэшце рэшт Катажына вырашыла пацясніць на палітычным небасхіле саму каралеву, славутую Марысеньку Д'Аркэн. На гэтай глебе дзве першыя дамы каралеўства пасварыліся, і Катажына вымушана была пакінуць каралеўскі палац. Катажына Сабеская памерла ў 60-гадовым узросце, перажыўшы мужа на 14 гадоў. Апошнія гады яна жыла ў сваіх палацах у Белай і Варшаве. А ў Нясвіжы тым часам жыў спачатку яе старэйшы сын Ежы Юзаф з жонкай Марыяй Элеанорай Ангальт-Дэсаў, а пасля яго смерці ў 1689 годзе — малодшы Караль Станіслаў з жонкай Ганнай Катажынай Сангушкай. Ганну Катажыну заслужана лічаць адной з самых праслаўленых жанчын роду Радзівілаў. Аўдавеўшы ў 1719 годзе, яна доўга і самаўладна кіравала ўсімі ўладаннямі нясвіжскай лініі роду Радзівілаў. І паказала за гэты час сябе як цудоўная гаспадыня і смелая прадпрымальніца. Будавала грэблі, масты, дарогі, млыны, корчмы. Завяла ў сваіх маёнтках пародзістых галандскіх кароў. Правяла рамонт усіх сваіх маёнткаў, двароў, фальваркаў. Стварыла шэраг мануфактур і прадпрыемстваў. Сярод іх — фабрыкі па вытворчасці дываноў у Нясвіжы, Карэлічах, Белай, гута па вырабе сталовага і крышталёвага шкла ў Налібоках, шліфавальная мануфактура, дзе выраблялся багата аздобленыя шкляныя люстры, суконная фабрыка ў Слуцку. У Яновічах пад Ашмянамі пры Ганне Катажыне апрацоўвалі каштоўныя камяні, у Белай працавалі з золатам і рабілі парцэляну, у Слуцку адкрылася "персіярня" — майстэрня па вырабе славутых слуцкіх паясоў.

Але ў асабістым жыцці княгіня Ганна Катажына была зусім не такой удачлівай, як у прадпрымальніцтве. Выходзіла замуж не па каханні, пабачыла свайго жаніха ўпершыню толькі ля алтара...

У нясвіжскай родавай пахавальні Радзівілаў стаяць побач 11 маленькіх трунаў сыноў і дачок Ганны Катажыны, якіх яна не перастала аплакваць усё жыццё. Паводле падання, душа Ганны Катажыны пасля смерці ў выглядзе савы доўгі час працягвала наведваць дарагія труны і крычаць-плакаць над няшчаснымі лёсамі сваіх дзяцей.

Тым не менш, гісторыя сведчыць, што з тымі дзецьмі, якія выжылі, княгіня не здолела знайсці ўзаемапаразумення, бо заўсёды дэманстравала ім свой уладны, ганарлівы характар. З-за гэтага адзін з сыноў Ганны Катажыны, Геранім Фларыян, вырас у змрочнага, апанаванага садысцкімі ідэямі монстра. Другі, жыццелюбівы і вясёлы Міхал Казімір па мянушцы Рыбанька, каб захаваць сябе як асобу, быў вымушаны парваць з маці ўсе адносіны.



*Радзівіл Ганна Катажына*

Нагодаю для гэтага сталася жаніцьба Міхала Казіміра з добраю і разумнаю Францішкай Уршуляй — дачкою князя Вішнявецкага. Шлюб адбыўся з узаемнае згоды і ажыццёўлены быў без ведама Ганны Катажыны. Гэта раззлавала яе так моцна, што яна пакінула Нясвіжскі палац нежаданай нявестцы і, выказаўшы сыну ўсё, што яна пра яго думае, назаўсёды з'ехала ў Белую. Так Францішка Уршуля Вішнявецкая стала наступнай гаспадыняй Нясвіжа. Гэта была даволі тонкая, уразлівая натура, паэтка, драматург. Яна адкрыла ў Нясвіжы тэатр, на сцэне якога ішлі яе ўласныя п'есы і п'есы еўрапейскіх класікаў, перакладзеныя ёю на польскую мову. Добры геній Нясвіжа, Францішка Уршуля памерла ў 48-гадовым узросце. Яе змяніла Ганна Людвіка з роду Мыцельскіх, якая стала другой жонкай Міхала Казіміра Рыбанькі. Для Ганны Людвікі гэта быў таксама другі шлюб. Да гэтага яна была замужам за стрыечным братам Рыбанькі, Львом Міхалам, ад якога мела траіх дзяцей.

Адзін з іх — вядомы беларускі кампазітар, аўтар оперы "Агатка" Мацей Радзівіл. Удавец Міхал Казімір Рыбанька паспачуваў гору ўдавы Ганны Людвікі і зрабіў ёй прапанову. Вельмі хутка новая гаспадыня заняла пакой нябожчыцы Францішкі Уршулі ў родавым палацы нясвіжскіх Радзівілаў. Але лёс Ганны Людвікі Мыцельскай у Нясвіжы быў звязаны нават не столькі з яе другім мужам, колькі з пасынкам, маладым Каралем Станіславам Пане Каханку, пазней — вядомым палітычным дзеячам і яшчэ больш вядомым авантурыстам, эксцэнтрыкам, жартаўніком і падманшчыкам. Спачатку маладая мачаха доўга і марна дамагалася добрых адносін да сябе з боку пасынка, а потым, пасля смерці Рыбанькі, здолела нават стаць даверанай асобай Пане Каханку ў справах эканамічных і грашовых. Гэта дало падставы сучаснікам сцвярджаць, што адносіны паміж мачахай і пасынкам былі не зусім цнатлівымі. Тым больш што абедзве жаніцьбы Караля Станіслава Радзівіла Пане Каханку аказаліся няўдалымі. Першую жонку, фрэйліну каралеўскага двара Марыю Любамірскую, выйграў для сына ў карты ў яе дзядзькі, гетмана каронная Браніцкага, гетман вялікі Літоўскі Міхал Казімір Рыбанька. Калі маладых паставілі ля алтара, яны абодва адказалі: "Не". Але іх усё роўна павянчалі. Шлюб доўга не пратрымаўся. Муж і жонка, прасякнутыя ўзаемнай нянавісцю, дабіліся разводу. Другая жонка Пане Каханку, Тэрэза Ржэвуцкая, якую ён сам выбраў для сябе, таксама хутка настолькі абрыдла яму, што ён бегаў хавацца ад яе ў манастыры...

Ганна Людвіка Мыцельская доўгі час заставалася адзінай жанчынай, якая разумела Караля Станіслава і падтрымлівала яго ў самых дзёрзкіх яго пачынаннях. З ёю адышоў у нябыт час легендарных жанчын — таямніцых гаспадынь Нясвіжскага палаца. Тых, што, паводле паданняў, у самую зорную асеннюю ноч лёгкімі зданямі злятаюцца ў Нясвіж, каб у зале свайго палаца да ранішняй зоркі танцаваць менуэты...

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,**
**Мікола БАГАДЗЯЖ**

У папярэднім нумары газеты "Культура" пераблытана імя аўтара матэрыялу "Настаўнік жыве ў сваіх вучнях". Трэба чытаць: "Уладзімір Гоманаў". Просім прабачэння за дапушчаную памылку.

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры і друку
Рэспублікі Беларусь

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: 76-94-66

Галоўны рэдактар — Алег КАМІНСКІ

Рэдакцыйная калегія:
Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Алесь КАРЛЮКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©
Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 5000
Замова 3492
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.